**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 51 (872) 22 снежня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**




*Са светлым святам Нараджэння Хрыстова!*


Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by


# Вольнае Глыбокае





## Віцебская падатковая сабрала за 11 месяцаў больш 1,5 мільярда рублёў падаткаў

**Па выніках 11 месяцаў 2016 года ў кансалідаваны бюджэт Віцебскай вобласці паступіла 1 566 700 000 рублёў.**

Пры гэтым у мясцовы бюджэт сабрана 1 021 400 000 рублёў падаткаў, а 545 300 000 рублёў пойдуць у рэспубліканскі бюджэт, паведамляе прэс-цэнтр інспекцыі МНС па Віцебскай вобласці.

Больш за 70% адсоткаў паступленняў бюджэту Віцебскай вобласці сфармавана за кошт наступных прыбытковых крыніц: падаходнага падатку (21,1%), падатку на дададзены кошт (14,8%), акцызаў (18,3%), падатку на прыбытак (7,5%), падатку на нерухомасць (4,8%), зямельнага падатку (3,3%), падатку пры спрошчанай сістэме падаткаабкладання (2,2%).

*Сяржук Серабро.*


Падача абвестак па тэлефоне № 166


## Праезд у прыгарадным транспарце Віцебскай вобласці падаражэе

**Віцебскі аблвыканкам прыняў рашэнне пра павелічэнне тарыфаў на прыгарадныя пасажырскія перавозкі аўтамабільным транспартам.**

Кіламетр на аўтобусе, у залежнасці ад тыпу маршруту, падаражэў ад 0,45 да 0.85 капейкі. Кошт праезду за адзін кіламетр зараз складзе: на звычайных маршрутах – 6 капеек; на хуткасных маршрутах – 8 капеек; на дадатковых рэйсах – 8 капеек; на экспрэсных маршрутах – 9 капеек. Пры гэтым аблвыканкам прыбраў розніцу ў тарыфікацыі ў залежнасці ад тыпу аўтобуса — квіткі на аўтобус агульнага тыпу і на мяккі будуць каштаваць аднолькава.

Папярэдняе павелічэнне тарыфаў на прыгарадныя аўтобусы адбылося каля года назад. Як ўжо паведамлялася, тыдзень таму стала вядома аб падаражэнні квіткоў на гарадскі транспарт. Абодвы рашэнні прыняты аблвыканкамам 9 снежня.

*Сяржук Серабро.*




ISSN 2077-8023
9 772077 802009 10051

## Віцебская вобласць

# Пасля крытыкі ў адстаўку

■ Станіслаў Раманчук.

**У верхніх эшалонах беларускай улады часта адбываюцца нечаканыя кадравыя рашэнні і змены ўпраўленцаў высокага рангу.**

І ўсё ж нядаўняя адстаўка адразу двух ураджэнцаў Віцебскай вобласці з кіруючых пасад у прэзідэнцкай Адміністрацыі выклікала шэраг пытанняў. Толькі каля двух гадоў кіраваў ёй 57-гадовы доктар медыцынскіх навук Аляксандр Косінец, а з ім перавялі на іншую работу і старэйшага на 4 гады яго першага намесніка Канстанціна Мартынецкага. Асаблівых прэтэнзій да іх дзейнасці ў главы дзяржавы не было, праўда, на рабочай сустрэчы ў пачатку лістапада пасля мяккай крытыкі А. Лукашэнка запатрабаваў ад іх прынцыпова змяніць стыль работы і наладзіць больш эфектыўную работу з кадрамі. У снежні 2014 года многія ў Прыдзвінні ўздыхнулі з аблягчэннем, калі тагачаснага старшыню аблвыканкама А. Косінца знялі з займаемай пасады і перавялі на працу ў сталіцу. Не да спадобы на месцах быў ягоны жорсткі, валявы стыль кіраўніцтва, а таксама вельмі амбіцыйныя задачы, якія ім ставіліся. Акрамя недарэчнай праграмы “чыстыя палі” нават ва ўрадзе крытыкавалі планы атрымаць у паўночнай вобласці 2 млн. тон збожжа. Кожны чалавек своеасаблівы, а вось ураджэнец Аршаншчыны выдатна вучыўся, зрабіў кар’еру не толькі ў медыцыне, многа карыснага на пасадзе віцэ-прэм’ера зрабіў для гэтай галіны. Пры ім Віцебск прыкметна пахарашэў, атрымаў выдатны помнік князю Альгерду, хоць і пазбавіўся прыгожай цэнтральнай плошчы, якая патанала ў зелені. Удзячны павінны быць А. Косінцу і глыбачане, бо алея славутых землякоў – таксама ягоная ідэя. А вось у перыяд крызісу кіраўніцтву краіны спатрэбіліся іншыя падыходы і прапановы для Беларусі з новымі памочнікамі.

## Браслаўскі раён

# Трагедыя пасярод ночы

■ Чэслаў Якубовіч.

**У халодны перыяд года найбольш адбываецца пажараў і іншых непрыемных здарэнняў для людзей**.

Сапраўдным шокам для ўсёй Беларусі стаў жудасны выпадак пад раніцу ў адным з дачных домікаў паблізу Віцебска. Асабліва горкай была гэта навіна для сям’і з Браслава, бо ў кампаніі маладых людзей у старой драўлянай хаце ў вёсцы Кукавячына, што ў Ноўкінскім сельсавеце, загінула іх 18-гадовая дачка, навучэнка 2-га курса аднаго з каледжаў. Напярэдадні яна з двума знаёмымі хлопцамі, старэйшымі на год, прыехала сюды адпачыць ад гарадской мітусні на ўлонні прыроды. Агонь у доме ўспыхнуў пад раніцу, а пасля прыбыцця пажарных а пятай гадзіне полымя ўжо поўнасцю бушавала. Падчас тушэння пажару ў калідоры на падлозе супрацоўнікі МНС знайшлі мёртвыя целы юнака з дзяўчынай. У аднаго з маладых віцяблян былі ключы ад бабулінага дома і ён перыядычна наведваўся сюды. Кампанія крыху выпіла і павесялілася апошні раз у жыцці. Адзін з хлопцаў вучыўся ў ліцэі, а ягоны сябар шукаў працу. Калі з вогнішчам пажарныя справіліся, яны пад рэшткамі абгарэлай столі і іншых рухнуўшых будаўнічых канструкцый знайшлі трэці труп загінулага 1997 года нараджэння. На месца трагедыі неўзабаве выязджала спецыяльная крыміналістычная лабараторыя. Эксперты ўстанавілі, што маладыя людзі загінулі ад атручэння чаднымі прадуктамі гарэння і дымам. Версію аб узнікненні пажару ў выніку парушэнняў правілаў эксплуатацыі пячнога ацяплення спецыялісты абвяргаюць, бо печка знаходзілася не ў зоне ўзнікнення ўзгарання. Да бяды маглі прывесці, хутчэй усяго, неасцярожнасць пры курэнні, альбо няспраўнасць электраабсталявання. Родныя загінуўшых не ведалі, па якой прычыне моладзь вырашыла так правесці апошнюю ноч у жыцці. Дарэчы, бяда, як звычайна, не прыходзіць адна. У той самы дзень на радзіме маладой браслаўчанкі загінуў на пажары ў вёсцы Кляўсы яе 62-гадовы зямляк.

## Полацкі раён

# За адкаты за краты

■ Кастусь Александровіч

**Імкненне жыць прыпяваючы і асабліва для гэтага не прыкладаць намаганняў, як правіла, прыводзіць суайчыннікаў на лаву падсудных.**

Падвяла прага лёгкай нажывы і траіх былых упраўленцаў Наваполацкага НПЗ “Нафтан”, якія акрамя канфіскацыі маёмасці атрымалі ад 7 да 12 гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Адзін з іх займаў пасаду намесніка гендырэктара па матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні і па сутнасці стварыў злачынную групу са сваіх падначаленых, цяпер ужо былога начальніка ўпраўлення вытворча-тэхнічнай камплектацыі і экс-начальніка аднаго з падобных аддзелаў. На працягу некалькіх гадоў гэта тройка мела кантакты з прадстаўнікамі камерцыйных структур і насуперак інтарэсам завода заключала з імі кантракты на пастаўкі, патрабуючы ўзамен грашовае ўзнагароджанне. Як было ўстаноўлена следчымі, прадпрыемству быў нанесены ўрон дзелавой рэпутацыі “Нафтана” перад замежнымі партнёрамі. Матэрыяльныя страты гіганта нафтахіміі дасягнулі амаль 3,4 млн. еўра, частка з гэтай сумы была вернута, праўда, падчас следства. За адну са здзелак зламыснікі не пасаромеліся папрасіць пакласці ў сваю кішэню нават 900 тысяч еўра хабару, але былі арыштаваныя. Аднак пажыць шыкоўна ў іх не атрымалася. У даход дзяржавы канфіскаваны і новенькі незаконна куплены аўтамабіль “Мерседэс-Бенц”. Цікава, што і малады 26-гадовы загадчык крамы з Наваполацка атрымаў 3 гады турмы за крадзёж з касы больш 200 млн. старых рублёў і таксама пазбавіўся маёмасці.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 22.12.16 | | | | Пятніца 23.12.16 | | | | Субота 24.12.16 | | | | Нядзеля 25.12.16 | | | | Пан. 26.12. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | 0 | -1 | -1 | -2 | -2 | -1 | +1 | +1 | +1 | -1 | -1 | -1 | 0 | 0 | +1 | 0 | +1 | +5 | +4 |
| Ціск | 756 | 755 | 755 | 755 | 754 | 753 | 753 | 755 | 755 | 752 | 747 | 746 | 745 | 743 | 742 | 745 | 741 | 736 | 738 |
| Вецер м/сек | Пд-З | З | Пд-З | Пд-З | Пд-З | З | З | З | З | Пд-З | Пд | Пд-З | Пд-З | Пд-З | Пд-З | Пд-З | Пд-З | Пд-З | З |
| Вільготнасць | 94 | 89 | 85 | 92 | 93 | 92 | 88 | 92 | 93 | 88 | 79 | 91 | 93 | 89 | 85 | 91 | 93 | 92 | 68 |

# Аб самым надзённым

## УСЁ БОЛЬШ СВЕДЧАННЯЎ ТАГО, ШТО СІТУАЦЫЯ Ў БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНОМІЦЫ ТРЫВОЖНАЯ І ВЫХОДЗІЦЬ З-ПАД КАНТРОЛЮ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**На двары ж зараз XXI стагоддзе, дзе не самае галоўнае як мага болей вырабіць розных тавараў. Загвоздка ў тым, што калі нават на прадпрыемстве замяніць поўнасцю станкі і абсталяванне па праграме мадэрнізацыі, нарасціць вытворчыя магутнасці, гэта яшчэ не гарантыя ўстойлівага развіцця.**

Апошняя рабочая паездка беларускага лідара напрыканцы лістапада ў Маскву аказалася самай загадкавай, бо аб яе выніках у афіцыйных СМІ было мінімум інфармацыі. Паведамлялася, праўда, даволі коратка, як два прэзідэнты спачатку павіншавалі Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла з 70-гадовым юбілеем. Па-сутнасці, хутчэй усяго, наступныя вячэрнія перамовы на працягу пяці гадзін прэзідэнтаў Расіі і Беларусі да позняй ночы не прынеслі чаканых беларускім кіраўніцтвам вынікаў: супярэчнасці засталіся, патрэбнай падтрымкі і грошай ад Крамля афіцыйны Мінск зноў не дачакаўся.

Невыпадкова ж праз пару дзён А. Лукашэнка на прадстаўнічай нарадзе па сур’ёзных праблемах айчыннага машынабудаўнічага комплексу шчыра прызнаўся: “Половина населения сегодня перебивается с воды на хлеб… В экономике военное положение, а мы расслабились, и как будто ничего не происходит… Рассчитывать надо только на себя. Ни на какую Америку, ни на какую Россию!” Апошняе параўнанне амерыканцаў з рускімі аб многім гаворыць, бо да развалу ў машынабудаванні ў пэўнай ступені прывёў беларусаў наш асноўны гандлёвы партнёр на Усходзе і, па словах главы нашай дзяржавы, у Расіі зараз катастрафічная сітуацыя.

Паколькі на тых перамовах з Пуціным прарыўных рашэнняў не дачакаліся, то Беларусь адразу зрабіла другую спробу павысіць на 20 % з новага года цану на транзіт расійскай нафты. Дарэчы, яшчэ летась летам кіраўніцтва краіны распрацавала меры, каб спыніць абвал на беларускіх машынабудаўнічых заводах, на якіх занята больш 155 тысяч чалавек. У машынабудаванні, дарэчы, адзін работнік дае працу ў іншых галінах ад 5 да 7 рабочых смежных месц. Ад дзейнасці 16 беларускіх вядучых прадпрыемстваў аўтахолдынгаў залежыць лёс многіх людзей і заказы для яшчэ 370 прадпрыемстваў і арганізацый, бо ў іх працуюць яшчэ 327 тысяч чалавек.

Аднак у гэтай сферы становішча вельмі няпростае, бо пасля 2013 года нашы былыя флагманы МАЗ, БелАЗ, “Гомсельмаш”, БМЗ, МТЗ, холдынг “Аўтакампаненты” і іншыя знізілі напалову і болей ранейшыя аб’ёмы выпускаемай прадукцыі. Патэнцыял важнай галіны эканомікі сёлета за 10 месяцаў аднавіўся толькі на 3 %, неэфектыўнай аказалася дзяржпадтрымка. Нашы буйныя заводы галіны да таго ж цяпер маюць дэфіцыт абаротных сродкаў у памеры 1 трыльён старых рублёў, з-за чаго час ад часу зрываюцца тэрміны паставак беларускай тэхнікі замежным заказчыкам.

Абвал у галіне спыніць будзе няпроста яшчэ і таму, што сёлета ў пачатку восені расійскі ўрад сваёй пастановай зрабіў беларускую тэхніку непрыярытэтнай для рынку РФ, аднёс яе да тавараў замежнага паходжання, да якіх прымяняецца надбаўка 15 %. Пры значных эканамічных цяжкасцях у расіян, зразумела, што яны надалей яшчэ меней стануць купляць нашу прадукцыю, заменяць яе сваімі грузавікамі, трактарамі, камбайнамі, аўтобусамі. На прайшоўшай нарадзе ў Мінску справядлівымі прызналі нараканні спажыўцоў і на якасць прадукцыі беларускага машынабудавання, якая пагоршылася.

На гэтым вось фоне нечаканую і даволі смелую заяву зрабіў адзін са старэйшых дзеячаў беларускага ўрада, пажылы віцэ-прэм’ер Уладзімір Сямашка. Аказваецца, па ягоных словах, Беларусь выжыла, пераадолела ўжо крызіс. Аргументаваў гэты тэзіс адзін з самых уплывовых упраўленцаў краіны тым, што сёлета ў заводаў і фабрык Міністэрства прамысловасці назіраецца тэмп росту вытворчасці 103 %, а на новы 2017 год ва ўрадзе ім запланавалі яшчэ больш уздым – 111,3 %. У гэта, канешне, хацелася б верыць, аднак трэба ўсё ж спусціцца з аблокаў на грэшную зямлю.

На двары ж зараз XXI стагоддзе, дзе не самае галоўнае як мага болей вырабіць розных тавараў. Загвоздка ў тым, што калі нават на прадпрыемстве замяніць поўнасцю станкі і абсталяванне па праграме мадэрнізацыі, нарасціць вытворчыя магутнасці, гэта яшчэ не гарантыя ўстойлівага развіцця. Любы тавар трэба яшчэ і выгадна прадаць, а вось з гэтым у многіх беларускіх малаканкурэнтназдольных тавараў, сапраўды, вялікая праблема. Не сакрэт, што мы арыентуемся ў асноўным на расійскі рынак, а там каторы год існуюць пэўныя цяжкасці на фоне балючых заходніх санкцый за Крым, Данбас і Сірыю. Маўчанне прэс-службаў беларускага і расійскага прэзідэнтаў пасля апошняй паездкі А. Лукашэнкі ў Крэмль пацвярджае, што праблемы засталіся і невядома, што будзе з пастаўкамі газу і нафты, у якіх аб’ёмах і па якіх цэнах.

Беларускі лідар, праўда, неўзабаве меў перамовы са сваім калегам І. Аліевым у Баку наконт паставак у Беларусь каспійскай нафты. Аднак, па меркаваннях дасведчаных экспертаў, па шэрагу прычын азербайджанская нафта не зможа замяніць нам гэту сыравіну з Расіі, бо значных прыбыткаў не будзе, а з гэтага беларусы дагэтуль жылі. Між тым, айчынны ВУП з-за зніжэння аб’ёмаў паставак расійскай нафты сёлета можа знізіцца на 3 %. Няпроста будзе Беларусі і ў наступным годзе, калі захаваюцца такія абмежаваныя пастаўкі “чорнага золата”, бо наша эканоміка моцна залежыць ад аб’ёмаў нафтаперапрацоўкі і паставак гатовых нафтапрадуктаў на экспарт.

## Дзень за днём

**Аб'ём дзяржпадтрымкі айчыннай эканомікі скараціўся больш чым у 3,5 разы. Без новых замежных займаў Беларусі праз год можа пагражаць дэфолт. На падтрымку АПК у 2017 годзе выдзеляць з дзяржбюджэту на 25 % сродкаў меней, чым сёлета. Расія дапусціла адкрыццё часовых міжнародных пунктаў пропуску на граніцах з Беларуссю. Пасля 6-гадовага перапынку прайшоў "Мінскі форум" па перспектывах збліжэння Беларусі з Германіяй і ЕС. Падатковыя інспекцыі разаслалі 70 тысяч пісьмаў "дармаедам". Ужо 2 гады не рэалізоўваецца дамоўленасць аб трансляцыі ў Беларусі ўкраінскага тэлеканала. Прышчэпкі ад грыпу зрабілі 3,5 млн. беларусаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Францыя**. Еўрапарламент прыняў рэзалюцыю аб супрацьдзеяннях інспіраванай Крамлём кампаніі дэзінфармацыі і прапаганды па аслабленні і расколу ўнутры ЕС.

**Галандыя.** У Гаагскі трыбунал Украіна прадставіла доказы ўдзелу Расіі ў вайне на Данбасе, дакументы аб расстрэлах на месцы, катаваннях палонных, выкраданнях людзей.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка заявіў, што з рэзалюцыяй ААН, якая прызнала Расію краінай-акупантам, мы мірнымі сродкамі непазбежна вернем Крым у склад Украіны.

**Расія.** Эксперты "Сбербанка" РФ пацвердзілі, без урэгулявання нафтагазавага канфлікту з Расіяй Беларусі не ўдасца палепшыць сітуацыю ў эканоміцы і выйсці з глыбокай рэцэсіі.

**Турцыя.** Туркі не павінны перажываць, як заявіў прэзідэнт Р. Эрдаган, з нагоды членства ў ЕС, у наступным годзе можа быць праведзены рэферэндум па гэтым пытанні.

**ЗША.** Прадстаўнік Дзяржд эпартамента Д. Кірбі афіцыйна абвінавацій Расію ў дэстабілізацыі абстаноўкі ў Еўропе перакідваннем комплексаў "Іскандэр" пад Калінінград.

**Украіна.** Пасля серыі арыштаў у Крыме нібыта ўкраінскіх "дыверсантаў" на пункце пропуску Джанкой СБУ затрымала двух рускіх ваенных, дэзерціраў з украінскай арміі.

**Расія.** Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл заявіў, што РПЦ ніколі не дапусціць аддзялення Украінскай праваслаўнай царквы ад Маскоўскага Патрыярхату.

**Аўстралія.** Група вучоных краіны і Кітая выявіла, што насякомыя, павукі і чарвякі з'яўляюцца пераносчыкамі 1445 розных вірусаў, частка з якіх дагэтуль не вывучана.

**Узбекістан.** Шэраг СМІ паведамілі аб гібелі нібыта ад атраўлення старэйшай дачкі былога прэзідэнта краіны І. Карымава – Гульнары, яе даўно не бачылі на публіцы.

**Расія.** Расійскія СМІ праігнаравалі паездку А. Лукашэнкі ў Маскву, дзе яго не сустрэлі ў аэрапорце, прымусілі доўга чакаць сустрэчы з У. Пуціным перад працягліымі перамовамі.

**Японія.** На ўсход ад прэфектуры Фукусіма зноў адбыўся землятрус сілай 6,1 бала, падземныя штуршкі адчуваліся ў 17 рэгіёнах краіны і ў сталіцы Токіо.

**Егіпет.** Вучоныя археолагі знайшлі ля берагоў Ніла паблізу грабніцы фараона Сеці I старажытны горад узростам звыш 7 тысяч гадоў, добра захаваліся будынкі, посуд, рэчы.

**Расія.** На тэлеканале "ТВ Цэнтр" збілі польскага палітолага Т. Мацейчука, калі ён заявіў на токшоу "Права голасу", што Расія жыве горш Румыніі па ўзроўні сярэдніх зарплат.

**Ізраіль.** На дапамогу краіне ў ліквідацыі моцных пажараў з-за падпалаў накіравалі спецыяльныя пажарныя самалёты РФ, Украіна, Кіпр, Грэцыя, ЗША, Італія, Турцыя.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Пакольні наша кіраўніцтва не гатова да рэформ дзяржсектару, як папярэдзіў фінансавы аналітык В. Іасуб, то МВФ адмовіць Беларусі ў крэдытах, праблем прыбавіцца.

**Жлобін.** Мясцовы БМЗ апынуўся ў ліку 5 краін Еўропы, дзе металургі дапусцілі найбольшае падзенне аб'ёмаў выпуску сталі і труб, завод у Харватыі спыніў працу.

**Мінск.** Палітолаг А. Класкоўскі заявіў, што эпоха росту эканомікі на старой савецкай індустрыяльнай базе скончылася, беларусы бяднеюць, краіна пагрузілася ў стагнацыю.

**Чэрвень.** Дзяржкантроль выявіў, што ў мясцовым райаграсервісе заараді ўжо пад снегам няўбраную бульбу на 36 гектарах, загубілі яе пасевы і ў Лідскім, Магілёўскім раёнах.

**Мінск.** А. Лукашэнка заявіў, што Беларусі патрэбна разлічваць толькі на сябе, а айчынную эканоміку належыць наладзіць на ваенны лад, больш актыўна шукаць новыя рынкі збыту.

**Брэст.** Каб пазбегнуць банкруцтва, антыкрызісны ўпраўляючы мясцовага завода бытавой хіміі рашыўся прадаць яго 5-павярховы дом з 36 непрыватызаванымі кватэрамі.

**Масты.** Эксперты еўрапейскага банка ЕБРР пачалі ацэнку актываў ААТ "Мастоўдрэў" і перадпрадажную падрыхтоўку з далейшым пошукам прывабных інвестараў.

**Мінск.** З пачатку года продажы грузавых аўтамабіляў МАЗа ў Расію скараціліся яшчэ амаль на 10 % і склалі 2683 машыны, КамАЗ і ГАЗ наадварот павялічылі свой продаж.

**Магілёў.** Мясцовая фабрыка марожанага распрацавала ўнікальны ў Беларусі гатунак "цёплага марозіва", якое не губляе сваіх якасцей і смаку нават у разагрэтым выглядзе.

**Мінск.** Партыя ЛДПБ прапанавала ў 2018 годзе разам з мясцовымі выбарамі правесці рэспубліканскі рэферэндум па 3-х пытаннях, павялічыць прэзідэнцкі тэрмін да 7 гадоў.

**Гомель.** Эканаміст Л. Марголін заявіў, што вярнуць заробкі па 500 USD намагчыма, бо для гэтага трэба закрыць усе неэфектыўныя прадпрыемствы, улады на гэта не пойдуць.

**Мінск.** Каментуючы сітуацыю з граніцамі РФ, прэс-сакратар МЗС Беларусі Д. Міронкчык заявіў, што расійскі бок убачыў "праблему", якую на заўважаў два дзясяткі гадоў.

**Салігорск.** На "Беларуськаліі" прадоўжылася серыя няшчасных выпадкаў на вытворчасці, пры выкананні работ зноў упалі з вышыні двое рабочых ва ўзросце 19 і 29 гадоў.

**Магілёў.** Пад вокнамі інтэрната Беларуска-расійскага ўніверсітэта знайшлі труп 20-гадовага студэнта з прыкметамі падзення з вялікай вышыні, які пражываў тут.

**Мінск.** Удзельніца токшоу на расійскім Першым канале гісторык Ніна Стужынская заявіла, што ў Маскве прапагандысты штучна нагнятаюць канфлікт з Беларуссю.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Дэпутаты не падтрымалі вяртанне ў страхавы стаж для пенсіі службу ў войску, дэкрэт і вучобу ў ВНУ




■ tut.by

**Пастаянная камісія па працы і сацыяльных пытаннях Палаты прадстаўнікоў адмовілася ініцыяваць вяртанне ў стаж для налічэння пенсій час службы ў войску, знаходжання ў дэкрэтным адпачынку і вучобы ў ВНУ, паведамляе БелаПАН.**

Старшыня камісіі Тамара Красоўская ў адказе на зварот у парламент групы грамадзян паведаміла, што ў страхавы стаж для налічэння працоўнай пенсіі ўключаецца толькі праца з выплатай абавязковых страхавых узносаў у бюджэт дзяржаўнага пазабюджэтнага фонду сацыяльнай абароны насельніцтва,

«Што датычыцца заліку ў страхавы стаж перыядаў праходжання тэрміновай воінскай службы, іншай дзейнасці без выплаты узносаў (пры гэтым у шэрагу выпадкаў з атрыманнем сацыяльных выплат: дапамог па беспрацоўі, па доглядзе за дзецьмі або інвалідамі), то гэта азначала б памяншэнне патрабавання перыяду выплаты узносаў для ўзнікнення права на працоўную пенсію па ўзросце на агульных падставах», - гаворыцца ў адказе Тамары Красоўскай.

«Ва ўмовах рэалізацыі мер, накіраваных на стрымліванне росту выдаткаў на пенсіі старэючага насельніцтва, такія прапановы не могуць быць падтрыманыя», - лічыць дэпутат.

Як паведаміў БелаПАН першы намеснік БСДП (Грамада) Ігар Барысаў, падчас парламенцкіх выбараў у верасні актывісты партыі ў Магілёве сабралі больш як 70 подпісаў грамадзян пад патрабаваннем ўліку ў стажы для налічэння пенсій час службы ў войску, знаходжання ў дэкрэтным адпачынку, догляду за інвалідам і вучобы ў ВНУ.

Нагадаем, да 2014 года страхавы стаж, які ўлічваецца пры вызначэнні права на працоўную пенсію, складаў 5 гадоў. А з 1 студзеня 2014 года яго павялічылі да 10 гадоў, праз год - да 15 гадоў. З пачатку гэтага года страхавы стаж паднялі яшчэ на паўгода. Пры гэтым з 1 студзеня 2017 года гэта планка будзе штогод павялічвацца на 6 месяцаў - да 20 гадоў.

Тым, хто даглядае за інвалідамі 1-й групы, і іншым катэгорыям пакінулі норму ў 5 гадоў страхавога стажу. Аднак пры гэтым у гэты стаж зараз не залічваюць час догляду за інвалідамі.

З-за гэтых змен беларусы, якія не выпрацавалі страхавы стаж, трапляюць у «пенсійную пастку»: яны не могуць прэтэндаваць на працоўную пенсію, ім могуць толькі прызначыць сацыяльную.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З 1 студзеня 2017 года вобласць пераходзіць на нарматыўнае фінансаванне адукацыі, значная колькасць малакамплектных сельскіх школ будзе летам закрыта.

**Наваполацк.** З-за недаставак расійскай нафты ўрад Беларусі вымушана перанёс тэрміны завяршэння шэрагу значных інвестыцыйных праектаў на "Нафтане" на 2017-2018 гады.

**Полацк.** ААТ "Полацктранснафта Дружба" паведаміў партнёрам з кампаніі "Транснафта" аб намерах павысіць цану на транзіт расійскай нафты з 1 студзеня на 20,5 %.

**Лёзна.** Сёлета за 3 кварталы года Рассельгаснагляд па Смаленскай і Бранскай абласцях вярнуў у Беларусь амаль 4 тысячы тон "неякаснай" мясамалочнай і рыбнай прадукцыі.

**Докшыцы.** Работнікаў мясцовага філіяла Лепельскага МКК парадавала, што сёлета ўжо больш 50 % закупленага з гаспадарак раёна малака паступіла класам "экстра".

**Шуміліна.** У суд з абласной пракуратуры паступіла крымінальная справа праraба Віцебскага ААТ "Прамэнергабуд", па віне якога 3 рабочых упалі з вялікай вышыні.

**Віцебск.** У абласным цэнтры прайшлі ўрачыстасці з нагоды 90-годдзя драмтэатра імя Я. Коласа з прэзентацыяй кнігі пра юбіляра і адпаведнай выставы ў краязнаўчым музеі.

**Глыбокае.** У сетцы Інтэрнэт сын адной з даярак ААТ "Сельцы" абурыўся, што яго маці за месяц працы без выходных налічылі 82 рублі зарплаты, хоць мінімалка зараз 230 рублёў.

**Віцебск.** Праверка Камітэта дзяржаўнага кантролю выявіла, што на 13 кацельнях вобласці з 43 дзеючых запасы мясцовых відаў паліва захоўваюцца пад адкрытым небам без навесаў.

**Паставы.** На сустрэчы дэлегацыі з Польшчы з кіраўніцтвам раёна дамовіліся аднавіць у райцэнтры помнік загінуўшым польскім салдатам і афіцэрам падчас вайны ў 1920 годзе.

**Верхнядзвінск.** У рамках музычнага праекта "Беларусь-тур" у райцэнтры даў канцэрт у РДК "залаты акардэон" краіны Ігар Квашэвіч, сустрэўся з навучэнцамі школы мастацтваў.

**Віцебск.** У генеральны план горада на рэканструкцыю ўнеслі аднаўленне шэдэўра архітэктуры барока касцёла св. Антонія, які быў знішчаны камуністамі ў 1961 годзе.

**Наваполацк.** У гарбальніцы праз тыдзень пасля падзення з вышыні на мясцовай ТЭЦ памёр 46-гадовы жыхар Гродна, супрацоўнік мінскай фірмы, якая вяла тут работы.

Браслаў. З пачатку года ў раёне адбылося толькі 8 пажараў, з якіх 7 у жылфондзе, аднак напрыканцы восені за некалькі тыдняў у агні загінулі 3 жыхары азёрнага краю.

**Полацк.** У апорны пункт міліцыі забралі 26-гадовага хлопца, калі ён зрабіў ветліва заўвагу міліцыянеру, што нельга паркавацца на месцах для інвалідаў ля крамы "5 элемент".

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Ці ў Мёрах куры здохлі?



■ Уладзімір Скрабатун

**Мая дачка, якая перыядычна наведвае рынак у Мёрах, перманентна назірае адну і тую ж карціну. Вялікія чэргі па яйкі! І гэта не распродажы са зніжкамі напярэдадні Калядаў ці Новага года, так – кожны нядзельны рынкавы дзень. Стаяць да перамогі – пакуль яйкі не скончацца!**

Людзі задоўга да прыезду бусіка з яйкамі займаюць чаргу – за 1-1,5 гадзіны. Стаяць не толькі пенсіянеры, але і маладзейшыя з дзецьмі. Не важна, якое надвор'е: ці зімовая сцюжа, ці ліпеньская спёка.

Прыязджае бусік з яйкамі – і пачынаецца гармідар, накшталт: "вас тут не стаяла!". Нарэшце, чарга супакоілася і ўсе высветлілі – хто і за кім займаў чаргу.

**– А яйкі чые?– пытаю. – Глыбоцкія? То няхай стаяць!**

*– Не! Каб жа глыбоцкія, бацька! Полацкія! Табе бацька і не сніласяя нават, нашыя ўласныя куры такіх яек не нясуць! Там – яйкі, дык яйкі! Не "галубіныя", як у нас! Нашых два-тры такіх трэба скласці!*

**– А што ў мёрскіх крамах яек няма?**

*– Ёсць, але "галубіныя" і 21 тысяча ("старымі") за дзясятак! А тут – 18 тысяч і за "страўсіныя". Меншыя, але, усё ж, большыя за "галубіныя", у іх – 14 тысяч за дзясятак.*

*– Рэальная эканомія 30 капеек з дзясятка! Ладна, з пенсіянерамі ўсё зразумела! Яны прызвычаіліся эканоміць! Але ж там у чарзе і маладзейшыя! Яшчэ не вядома, ці ёсць у гэтым выгода, бо адстаяўшы на марозе больш за дзве гадзіны, ці пакрые потым розніца ў коштах выдаткі на лекі? У людзей, перадусім, няма грошай!*

**– Цікава, хто "нясе" такія яйкі?**

*– Прыватнікі пад Полацкам трымаюць "курыную ферму". Праўдападобна, пасяховая ферма, бо прыязджаюць на рынак не на ржавым жалеззі, як дзяржаўныя птушкафабрыкі з іх непамернымі даўгамі і затрымкамі заробкаў. У іх бусік – наўё. І мухі на ім не тапталіся!*

Дарэчы, на рынках Беларусі яйкамі вольна можа гандляваць толькі сам іх вытворца. Таму і кошты ніжэйшыя, бо няма пасярэднікаў. Ну, і якая гаспадарка больш эфектыўная: прыватная, ці дзяржаўная з яе датацыямі? Наша птушкафабрыка, напрыклад.

Што Глыбокае, што Полацк – клімат аднолькавы, а яйкі розныя!

**Мёд – проста скарбніца карысных для арганізма рэчываў, ён і чысціць, і сілкуе, і зараджае энергіяй. Можна нават сказаць, што мёд – эліксір здароўя і даўгалецця.**

**Мёд нармалізуе работу шматлікіх унутраных органаў, паляпшае састаў крыві, павялічвае імунітэт, з'яўляецца магутнай крыніцай энергіі, засцерагае арганізм ад заўчаснага старэння.**

# Можна нават сказаць, што мёд – эліксір здароўя і даўгалецця

■ Д.Шыльчонак,
*фельчар-валеолаг*

Мёд можа і павінен ужывацца на сталай аснове, як агульнаўмацавальнае, якое рэгулюе абменныя працэсы і сродак, які паляпшае састаў крыві. Аптымальная сутачная доза – чатыры чайных лыжкі.

У перыяд прастудных захворванняў асабліва каштоўны кветкавы і ліпавы мёд. Нароўні з аднаўленчым эфектам, мёд спрыяе выводзінам слізі з дыхальных шляхоў. Грэчкавы мёд вельмі карысны пры захворваннях страўнікава-кішачнага тракту, органаў дыхальнай сістэмы, незаменны пры малакроўі.

Доннікавы мёд незаменны пры гнойна-запаленчых працэсах. Ён валодае ярка выяўленым антысептычным дзеяннем.

Жаночым мёдам лічыцца канюшынавы мёд. Калі ёсць праблемы з гінекалогіяй – дапаможа канюшынавы мёд. Жанчыны таксама павінны ведаць, што маскі для твару на аснове гэтага ўнікальнага прадукту цудоўна змякчаюць і сілкуюць скуру.

Мёд з душыцы – выдатны сродак пры бессані, паляпшае мазгавую дзейнасць, добры таксама пры неўрозах: супакойвае нервовую сістэму, таксама ўжываецца ў якасці прафілактычнага сродку ад атэрасклерозу, паляпшае перыстальтыку кішэчніка. Акрамя гэтага, валодае мачагонным і патагонным эфектам, карысны тым, у каго маюцца захворванні жоўцевага пухіра і печані.

Пры любым стане здароўя (за выключэннем алергіі на мёд) гэты выдатны прадукт карысны ў якасці хуткадзейнага аднаўленчага сродку.

Памятаеце, што сапраўдны мёд схільны зацукрывацца, таму ўзімку вадкага мёда вы не знойдзеце, а калі такім вам трапіўся, значыць, ён быў падагрэты. Мёд добрай якасці без рэшты раствараецца ў цёплай вадзе, досыць паспрабаваць растварыць хоць бы кроплю.

Калі ў Вас няма алергіі на гэты выдатны прыродны прадукт, абавязкова ўключыце яго ў свой рацыён!

# Як пазбегнуць харчовага атручвання ў навагоднія святы

■ Е.Волахава,
*урач-гігіеніст Глыбоцкага РЦГЭ*

Да Новага года засталося некалькі дзён. Для сферы гандлю і грамадскага харчавання – самая гарачая пара. Расце попыт на кулінарыю – тарты, салаты, дэлікатэсы. Але далёка не ўсе крамы сумленныя са сваімі кліентамі. Купля няякаснага і небяспечнага прадукта можа абгарнуцца сур'ёзнымі праблемамі са здароўем.

Першае, што неабходна зрабіць – адмовіцца ад куплі прадуктаў у месцах несанкцыянаванага гандлю. Асабліва гэта датычыць кансерваў хатняй падрыхтоўкі, сушоных грыбоў, рыбы, мяса і сала хатняга вэнджання. Не гледзячы на тое, што кошт такога тавара як правіла, ніжэй, чым у краме, іх спажыванне можа прывесці да сур'ёзных харчовых атручванняў і нават захворвання батулізмам.

Набываць прадукты харчання неабходна толькі ў прадпрыемствах гандлю. Асаблівую ўвагу варта надаваць хуткапсавальным прадуктам – мясным паўфабрыкатам, варанай каўбасе, салатам, тварагу, малаку, кандытарскім вырабам і да т.п. Пры куплі такіх прадуктаў абавязкова неабходна звяртаць увагу на тэрмін прыдатнасці і ўмовы захоўвання. Пры заканчэнні тэрміна прыдатнасці прадукцыі ці наймалым падазрэнні, што халадзільнае абсталяванне працуе не эфектыўна, прадукт набываць нельга.

Важна памятаць, што на пакаванні малочных і кісламалочных прадуктаў, сокаў, салатаў прамысловай вытворчасці і інш. указаны тэрмін прыдатнасці, разлічаны пры ўмове выканання цэласнасці пакавання і ўмоў захоўвання. У выпадку ўскрыцця пакавання тэрмін прыдатнасці такіх прадуктаў, як правіла, значна скарачаецца. Нельга набываць і прадукцыю з выпадкова парушанай цэласнасцю (герметычнасцю) пакавання.

Не ўжывайце харчовыя прадукты пры наймалым сумневе адносна іх дабраякаснасці, захоўвайце прадукты паводле ўказанняў на пакаванні, у строгай адпаведнасці з іх тэрмінам прыдатнасці і тэмпературай захоўвання, зважайце на маркіроўку прадукцыі, калі ж вы самі маеце цяжкасці пры чытанні інфармацыі на этыкетках, звяртайцеся да прадаўцоў, якія абавязаны даць вам вычарпальную інфармацыю пра тавар.



Рыхтуючы святочныя стравы ў хатніх умовах, у першую чаргу выконвайце правілы гігіены, сачыце за чысцінёй у памяшканні. Пры падрыхтоўцы ежы часцей мыйце рукі, праціраце, пры неабходнасці, кухонныя паверхні. Звярніце ўвагу на правільнае захоўванне харчовых прадуктаў, не захоўваеце на адной паліцы халадзільніка сырую і гатовую прадукцыю. Калі вы не збіраецеся неадкладна рыхтаваць святочныя стравы, лепш захоўваць сырое мяса ў маразільнай камеры. Акрамя таго, вельмі важна выконваць правільны тэмпературны рэжым і вытрымліваць неабходны для гатавання час пры абсмажванні, адварванні мяса, яйкаў, іншых інгрэдыентаў для святочных страў. Пры нарэзцы харчовых прадуктаў не выкарыстоўвайце адзін і той жа апрацоўчы інвентар (нажы, дошкі) для сырой і гатовай прадукцыі. Рэшткі ж святочных страў неабходна як мага хутчэй прыбраць у халадзільнік.

Для таго, каб не нарабіць шкоду свайму здароўю, будзьце больш патрабавальнымі і ўважлівымі да свайго выбару і купляйце правераныя прадукты, выконвайце іх тэрміны прыдатнасці, умовы захоўвання і правілы падрыхтоўкі.

**Праз Глыбокае праходзіць старая дарога з Полацка на Вільню, якую ў народзе клічуць Альгердавым Шляхам. Гэта – сённяшнія вуліцы Леніна і Горкага. Па Альгердавым Шляху, праз Глыбокае, імаверна, каб стаць нашым першадрукаром, выправіўся ў свет і Францішак Скарына.**

## Наш каляндар

# На калядны пост 1370 года беларусы ўзялі Маскву!

■ Уладзімір Скрабатун

**На Калядны пост 1370 года вялікі князь Альгерд здзейсніў свой другі паход на Маскву.**

Увосень 1370 маскоўскі князь Дзмітрый Іванавіч ізноў нападае на Цвер, што стала чыннікам другога паходу князя Альгерда на Маскву. Разам са старым князем у паход рушыў яго брат Кейстут, Міхаіл Цвярскі, смаленскі князь Святаслаў са сваім войскам.

Напачатку зімы аб'яднаныя харугвы прыйшлі да Масквы. Восем дзён працягвалася аблога Крамля, пасля якой быў падпісаны мір.



Альгерд.

Паводле «Хронікі Быхаўца», князь Дзмітрый падарыў Альгерду золата, срэбра, футры собаля і іншыя каштоўнасці.

Вялікі Князь Літоўскі, прыняўшы багатыя дарункі ў знак пагаднення, сказаў вялікаму князю маскоўскаму: «Хоць мы з табой замірыліся, але мне інакш зрабіць нельга, і павінен я да твайго горада Масквы сваю дзіду прыхінуць, і тое адзначаць, што князь вялікі літоўскі, рускі і жамойцкі Альгерд дзіду сваю да Масквы прыхінуў».

І сеўшы на каня, і ўзяўшы ў рукі дзіду, пад'ехаў да горада і дзіду сваю да сцяны прыхінуў, і, ад'язджаючы назад, сказаў гучным голасам так: «Князь вялікі маскоўскі, памятай пра тое, што літоўская[1] дзіда стаяла ў Масквы!»

1. На думку гісторыкаў вялікія князі літоўскія, хоць Альгерд, хоць Вітаўт, не валодалі ў сучасным разуменні літоўскай мовай. На тым часе ліцвінамі (літоўцамі), з большага, лічыліся цяперашнія беларусы. Тэрыторыя сённяшняй Беларусі на той час часта называлася Літвой. З часоў расійскай акупацыі нашых земляў ліцвіны атрымалі новую саманазву – беларусы.



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, пенсіянер, г. Дзісна*

# Чалавек нараджаецца са здольнасцю адгукацца на чужы боль

**"Упэўнены, што чалавек нараджаецца са здольнасцю адгукацца на чужы боль. Думаю, што гэта пачуццё ад нараджэння, дадзенае нам разам з інстынктамі, з душой. Але калі гэта пачуццё не ўжываецца, не практыкуецца, яно слабее і атрафіруецца".**

*Данііл Гранін.*



Па С.І.Ожагаву – міласэрнасць – гатоўнасць дапамагчы каму-небудзь, або прабачыць каму-небудзь з пачуцця спагады, чалавекалюбства.

За які бок маралі ні вазьміся, адразу адчуваецца яе падзенне. Узровень адзнакі гэтага падзення прымушае прызадумацца. Персанальна вінаватых няма. Каго вініць? Колькі ні шукай, іх не бачна, а міласэрнасць знаходзіцца ў страшным забыцці, быццам яе і няма.

І на самой справе, што ж гэта з намі адбываецца? Як мы дайшлі да гэтага, як з нармальнай спагадлівасці перайшлі ў раўнадушша, у бяздушша, і гэта таксама стала нармальным?

Чаму аслабла пачуццё ўзаемадапамогі, узаемаабавязкаў, але думаю, што ў многім гэта пачалося з рознага роду сацыяльнай несправядлівасці, калі абман, паказуха, карыснасць дзейнічалі беспакарана. Адбывалася гэта на вачах народа і ўздзейнічала на духоўнае здароўе людзей. З'явілася і ўкаранілася абыякавасць да сваёй працы, згуба ўсялякіх забарон – "а чаму мне нельга, калі можна іншым?" Пачынала квітнець вось тое самае, што мы называем зараз мякка – бездухоўнасць, раўнадушша.

Натуральна, гэта не магло не адбіцца на ўзаемаадносінах людзей унутры калектыва, на патрабавальнасці адзін да аднаго, на ўзаемадапамозе, абман пранік у сям'ю – усё ўзаемазвязана, таму што мараль чалавека не складаецца з ізаляваных правіл жыцця. І той дух згуртаванасці, узаемавыручкі, узаемаклопату, які захаваўся яшчэ ад вайны, дух адзінства народа знікаў.

Нашы размовы аб маралі часта носяць агульны характар. А маральнасць складаецца з канкрэтных рэчаў – з пэўных пачуццяў, уласцівасцяў, паняццяў. Адно з такіх пачуццяў – пачуццё міласэрнасці. Тэрмін для большасці старамодны, непапулярны сёння, і як быццам адарваны ад жыцця. Нават слоўнік дае іх як "устар.", г.зн., устарэўшае паняцце.

Словы старэюць невыпадкова. Выдаліць міласэрнасць – значыць, пазбавіць чалавека аднаго з важнейшых праяўленняў маралі. Гэта неабходнае пачуццё ўласціва ўсяму жывому: міласць да павергнутых і пацярпелых. Як жа гэта атрымалася, што пачуццё гэта ў нас знікла, заглохла, аказалася ў запусценні? Хоць і можна прывесці многа прыкладаў спагадлівасці, спачування, сапраўднай міласэрнасці. Прыклады, яны ёсць, і тым не менш, мы адчуваем, і даўно ўжо, адліў міласэрнасці ў нашым жыцці. Калі б можна было правесці сацыялагічнае вымярэнне гэтага пачуцця.

Чалавек нараджаецца са здольнасцю адгукацца на чужы боль. Думаю, што гэта пачуццё прыроджанае, дадзенае нам разам з інстынктамі, з душой. Калі гэта пачуццё не ўжываецца, не практыкуецца, яно слабее і атрафіруецца.

Ці практыкуецца міласэрнасць у нашым жыцці? Ці ёсць пастаянны прымус для гэтага пачуцця? Ці часта мы атрымоўваем прызыў да яго?



У 1957 годзе ў час службы ў войску мне на ўсё жыццё запомніўся фотаздымак у часопісе "Аганёк". Гарыць трохпавярховы дом. На падваконніку трэцяга паверха кошка ў зубах з кацянём мітусіцца, збіраецца саскочыць, але так, каб выратаваць сваё кацяня. Жывёла праяўляе высокае пачуццё міласэрнасці.

Як зразумець, і ці можна зразумець імкненне маладой дзяўчыны, якая хоча стварыць сям'ю, але без дзяцей. Але яшчэ страшней, дзіка, калі чытаеш інфармацыю аб тым, што ў кантэйнеры для смецця знаходзяць толькі што народжаных немаўлят у поліэтыленавых пакетах, або выкінутых у смецце-правод. Жанчына, маці, як біялагічная істота, але ніяк не сацыяльная з'ява, сваё роднае дзіця, сваю кравінку, якое яшчэ паспела толькі атрымаць глыток паветра, ужо асудзіла на пакутніцкую смерць. І кім, тым, хто абавязаны быў бы вырасціць чалавека. Гэта ўжо з'ява, якая паказвае не толькі адсутнасць міласэрнасці, нават назваць такую маці зверам, лютым зверам, пакрыўдзіць апошняга. Нават шакал не забівае шакала.

Так што пытанню фарміравання ўнутранага свету чалавека, яго маральных устояў у цэлым, а міласэрнасці ў прыватным, павінна быць удзелена вялікая ўвага. Да міласэрнасці патрэбна заклікаць і заклікаць, каб растрывожыць сумленне, каб лячыць глухату душы, каб чалавек перастаў марнаваць адпушчанае яму жыццё, нічога не аддаючы ўзамен і нічым не ахвяруючы.

## Круглае і Бялынічы атрымалі статус гарадоў раённага падпарадкавання



**Гербы гарадоў Круглае (злева) і Бялынічы.**



**Пасёлкі гарадского тыпу Круглае і Бялынічы атрымалі статус гарадоў раённага падпарадкавання. Такое рашэнне сёння прынята на сесіі Магілёўскага абласнога Савета дэпутатаў.**

«Дасягнутыя вынікі ў сацыяльна-эканамічным развіцці, створаныя аптымальныя ўмовы жыццядзейнасці і перспектывы далейшага развіцця Круглянскага і Бялыніцкага раёнаў даюць усе падставы для аднясення гарадскіх пасёлкаў Круглае і Бялынічы да гарадоў раённага падпарадкавання», — адзначыла начальнік землеўпарадкавальнай службы аблвыканкама Ірына Петручэня.

Паводле яе слоў, змяненне статусу названых пасёлкаў гарадскога тыпу не пацягне змены даходаў і расходаў грамадзян, у тым ліку індывідуальных прадпрымальнікаў, юрыдычных асоб і іншых арганізацый. Меркаваныя выдаткі раённых бюджэтаў па аднясенні Круглага і Бялынічаў да гарадоў раённага падпарадкавання складуць адпаведна Вr19,3 тыс. і Вr16,8 тыс.

*БелТА.*

## KillDozer у Браславе: п'яны на аўтапагрузніку пашкодзіў пару машын і знёс плот

**17 снежня з будпляцоўкі на Кастрычніцкай вуліцы ў Браславе п'яны жыхар Віцебска сагнаў аўтапагрузнік і панёсся на ім па вуліцах горада.**

На Садовай вуліцы ён учапіў пагрузчыкам прыпаркаваны ў абочыны аўтамабіль і пашкодзіў яго. У крамы «Виталич» супрацоўнікі ДАІ нарэшце заўважылі парушальніка і сталі падаваць яму сігналы аб спыненні.

Аднак мужчына на аўтапагрузніку паспрабаваў ад іх уцячы і звярнуў у завулак Дзяржынскага. Тут ён урэзаўся ў яшчэ адзін аўтамабіль, а затым — у плот. Толькі гэта змагло спыніць «гоншчыка», якога потым затрымалі інспектары ДПС.

Пасля затрымання высветлілася, што мужчына п'яны, а акрамя таго ён не мае ні пасведчання кіроўцы, ні навыкаў кіравання якога-небудзь транспартнага сродку. Праехаць у яго атрымалася больш за 700 метраў.

Цяпер праводзіцца расследаванне гэтага здарэння, у выніку якога пашкоджаны два аўтамабілі і плот, але, на шчасце, не пацярпелі людзі, паведамляе прэс-служба АДАІ Браслаўскага РАУС.

*ННВ.*

## Аўтааптэчкі старога ўзору неабходна замяніць да 2017 года

**Аўтааптэчкі старога ўзору можна выкарыстоўваць да 1 студзеня 2017 года, паведамляе БелТА. У канцы 2014 года Міністэрства аховы здароўя пастановай нумар 80 аптымізавала пералік аптэчак першай дапамогі і хуткай медыцынскай дапамогі, іх улажэнняў, а таксама парадак іх камплектацыі.**

У прыватнасці, пералік улажэнняў, якія ўваходзяць у аптэчку першай дапамогі, прызначаную для аснашчэння транспартных сродкаў, быў скарочаны па колькасці лекавых сродкаў. Зніклі, напрыклад, валідол, гліцэрыл трынітрат, ацэтылсаліцылавая кіслата, дратаверын, ларатадзін, метамізол натрый, парацэтамол, раствор сульфацэтаміду, цытрамон, паколькі ў аўтамабілі немагчыма забяспечыць захоўванне гэтых прэпаратаў у належных умовах, у тым ліку тэмпературных. Акрамя таго, у аптэчцы новага ўзору пазначаны тып кроваспыняльнага жгута, памер стэрыльных сурвэтак і нажніц, а таксама павялічана колькасць перавязачнага матэрыялу. Як паказвае вопыт, кроваспыняльны жгут тыпу Эсмарха – адно з самых надзейных і простых прыстасаванняў для часовага спынення крывацёку. Гэтаму сродку трэба аддаваць перавагу пры аказанні першай дапамогі. Нажніцы павінны быць бяспечнымі і зручнымі ў выкарыстанні. Зручнасць дасягаецца дзякуючы аптымальнай агульнай даўжыні нажніц, а бяспеку гарантуе іх тупаканцовая форма. Як раней растлумачвала Міністэрства аховы здароўя, новыя патрабаванні да аўтааптэчак прызначаны павысіць якасць першай дапамогі пры траўмах. Аўтааптэчкі па новых патрабаваннях сфарміраваны з улікам аказання першай дапамогі пры траўмах, таму ў іх павялічана колькасць перавязачных сродкаў. Гэта дасць магчымасць больш якасна аказаць першую дапамогу ў экстранных сітуацыях на дарогах, напрыклад, хутка правесці перавязку, спыніць крывацёк і давезці чалавека да бліжэйшай установы аховы здароўя.

*БелТА.*

